# ПАЭТ РОДНАЙ ПРЫРОДЫ

Гродзенцы добра ведаюць прыгожыя, маляўнічыя прынёманскія мясціны. Таму яны з вялікай цікавасцю ішлі на адкрыццё выстаўкі пейзажаў мастака Івана Васільевіча Пушкова.

На выстаўцы каля ста твораў. Гэта вынік працы мастака за апошнія дзесяць год. І. Пушкоў піша таксама тэматычныя, бытавыя карціны.

Калі пейзажыст услаўляе прыроду Гродзеншчыны ў карціне або эцюдзе, ён укладвае ў работу ўсё сваё майстэрства, пачуцці і думкі. І не дзіўна, што глядач убачыў на выстаўцы знаёмыя месцы па-новаму, па-асабліваму, убачыў іх так, як бачыць іх сам мастак.

Вельмі спадабалася многім наведвальнікам выстаўкі карціна «Раніца на Нёмане», ад якой павявае свежасцю надыходзячага дня. Звяртае на сябе ўвагу пейзаж «Воблачны дзень».

У некаторых сваіх работах — «Вячэрняя зара», «Летнія зоры» і інш. — І. Пушкоў тонка перадае пераходы з аднаго стану прыроды ў другі. Гучная, яркая гама карцін надае ім своеасаблівасць.

Серыю работ, прысвечаных роднаму краю, мастак заканчвае карцінай «Беларускі пейзаж», у якой нібы падводзіць вынік сваім песням аб родных прасторах. З глыбокім паэтычным пачуццём І. Пушкоў малюе шырокія раўніны, палі і пералескі роднай Беларусі.

Не ўсе работы мастака выкананы з аднолькавым майстэрствам. Такім пейзажам, як «Уборка траў», «Старое рэчышча Нёмана», «Маладыя дубы», не хапае закончанасці. Яны носяць эскізны характар.

На творчым шляху мастака былі і няўдачы. Але застаецца ясным тое, што перад намі своеасаблівы пейзажыст з індывідуальным почыркам, натхнёны пясняр роднага краю.

**Р. ДАЛЬКЕВІЧ.**



І. ПУШКОЎ. Раніца над Нёманам.

Фотарэпрадукцыя Г. БЫЛЕЎСКАГА.

# КАЛІ НЕ ДБАЮЦЬ АБ КУЛЬТУРЫ

**ПІСЬМО Ў РЭДАКЦЫЮ**

Можна прывесці нямала прыкладаў, калі работнікі культуры нашага раёна працуюць з цікавасцю, у іх рабоце ёсць ініцыятыва, добрыя пошукі. Напрыклад, у Валынцаўскім клубе — энергічны, ініцыятыўны загадчык тав. Салаўёў. Ён уласнымі сіламі добра і з густам упрыгожыў памяшканне нагляднай агітацыяй.

І ён многае яшчэ зрабіў бы, каб належным чынам добраўпарадкаваць клуб, але яму неабходна дапамога сельскага Савета. Паспрабаваў было загадчык клуба звярнуцца да старшыні сельсавета тав. Сапега з просьбай адпусціць сродкі, каб набыць паперу, алоўкі, фарбы, нарэшце, шалёўку для панелей, а тая сустрэла яго ў штыхі: «Якая дробязь! Усё гэта можна набыць за ўласныя сродкі...»

Многа ў нас яшчэ клубаў, якія знаходзяцца ў непрыстасаваных памяшканнях. Пра іх добраўпарадкаванне не клапоцяцца ні мясцовыя партыйныя арганізацыі, ні праўленні калгасаў і кіраўнікі саўгасаў. Возьмем, да прыкладу, Ворнаўскі сельскі клуб у цэнтры калгаса імя Дзімітрава (старшыня праўлення тав. Жгіроў, сакратар партарганізацыі тав. Караткевіч). Памяшканне клуба да таго старое, струхлелае, што туды небяспечна заходзіць. Як жа можна праводзіць у ім даклады, глядзець фільмы? Не раз моладзь калгаса гаварыла: «Нам патрэбен клуб». Але праўленне арцелі не рэагуе на гэта.

У Калюдоўскім і Паштоваглінскім клубах не праводзяцца сустрэчы з перадавікамі калгаснай вытворчасці, вечары пытанняў і адказаў, канферэнцыі чытачоў. Чаму? Ды таму, што іх работай не цікавіцца дырэкцыя і партком саўгаса «Руднянскі» (дырэктар тав. Шахнюк, сакратар парткома тав. Драздоў), а таксама Хляўнянскі сельскі Савет (старшыня тав. Ларчанка). Памяшканні не абсталяваныя, дахі цякуць, паліва не завозіцца. У дажджлівае надвор'е ў Калюдоўскім клубе на кнігі льецца вада.

У вёсцы Наркаўшчына старшыня калгаса імя Сталіна К. Нікіцін кожнае лета аддае памяшканне клуба пад дзіцячыя яслі.

Праект Праграмы КПСС патрабуе ад нас, работнікаў культуры, мабілізацыі ўсіх сіл і здольнасцей на паляпшэнне культурна-асветнай работы. Справіцца з гэтай задачай мы не здолеем без шырокай і актыўнай дапамогі грамадскасці.

**В. УШАЎ,**
**загадчык Кармянскага раённага аддзела культуры.**

РЕВАНШИЗМ

ФАШИЗМ

АГРЕССИЯ

БОНН БОНН БОНН

БУДЬ НАЧЕКУ!

Плакат работы Л. Кроля «Будзь напагатове!»

# ПІНЧАНЕ ЛЮБЯЦЬ МАСТАЦТВА

У памяшканні Пінскага краязнаўчага музея адкрылася выстаўка твораў жывапісу і графікі брэсцкіх мастакоў, якая парадавала новымі работамі на тэмы гераічнага мінулага і сучаснасці, карцінамі аб роднай прыродзе.

Мастакі П. Данелія, М. Чураба, В. Чарнышоў, І. Ламакін і С. Рыжанкоў прысвячаюць некаторыя свае карціны гераічным абаронцам Брэсцкай крэпасці.

І. Фяцісаў, вядомы як майстар партрэта, на гэтай выстаўцы таксама паказаў работы ў гэтым жанры. Сярод іх партрэты—«Качагар», «Алена Каспяровіч», «Рыгор Селівончык». Валявыя і мужныя атрымаліся ў яго вобразы перадавікоў будаўніцтва Бярозаўскай ДРЭС А. Каспяровіч і Р. Селівончыка. Верыш, што такія людзі з гонарам выканаюць перадз'ездаўскія абавязацельствы на ўдарнай будоўлі сямігодкі. «Качагар»—гэта партрэт вялікага псіхалагічнага настрою.

В. Шыкін і Э. Куфко свае жывапісныя палотны прысвяцілі жыццю маладога пакалення нашых дзён. У карціне «Ля кастра» В. Шыкін адлюстраваў прыгажосць піянерскага лета, цудоўныя паходы па роднаму краю і цікавыя гутаркі ля піянерскага кастра на ўлонні беларускай прыроды. Э. Куфко ў работах «Выпускніца» і «Дзяўчынка» раскрыў душэўнае хараство савецкіх маладых людзей, іх нястрымную цікаўнасць і вялікую веру ў жыццё.

І. Рудчык умее падгледзець у прыродзе самае цікавае, звязанае з дзейнасцю і перажываннямі чалавека, і перадаць гэта ў пейзажах. Вось чаму работы мастака заўсёды цёпла сустракаюцца наведвальнікамі. Пінчане знаёмяцца з пейзажнымі палотнамі І. Рудчыка — «Грыбное месца», «Летам на лодцы», «Туманная раніца».

Шматгранным майстрам паказаў сябе П. Данелія. Выстаўленыя ім у Пінску карціны «Пад вечар», «Навальніца прайшла», «Кастрычнік» хвалююць праўдзівай перадачай пары года, сапраўднай адухоўленасцю.

Краявіды Брэстчыны («Рэчка лясная», «Ускраіна Брэста»), створаныя мастаком Р. Кастусікам, гавораць пра тое, што іх аўтар добры знаўца і сапраўдны сябар прыроды. Хочацца толькі пажадаць, каб мастак менш звяртаў увагі на асобныя дэталі і больш смелым мазком перадаваў агульны настрой прыроды.

Аб гераізме савецкіх людзей, іх нязломнай волі і няўхільным імкненні перамагчы ворага ў барацьбе за вызваленне сваёй Радзімы ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў расказвае карціна «У тыле ворага» А. Кожына. Але нам здаецца, што мастак не вычарпаў сваіх магчымасцей і яшчэ мусіць вярнуцца да гэтага палатна, каб ярчэй выявіць чалавечы характар, стварыць больш жывапісны каларыт і тым самым узмацніць аптымістычны настрой твора.

Калгаснік сельгасарцелі імя Свярдлова Пінскага раёна тав. Баброўскі пасля прагляду выстаўкі напісаў у кнізе водгукаў: «Мяне да глыбіні душы ўсхвалявала выстаўка мастакоў горада Брэста. Асабліва хвалюючае ўражанне пакідаюць карціны аб Брэсцкай крэпасці. Вельмі добрыя пейзажы нашай роднай беларускай прыроды. Вялікае сардэчнае дзякуй вам, таварышы мастакі. Працуйце ў імя прыгожага!».

Лепш, бадай, не скажаш. На Піншчыне сапраўды любяць мастацкія творы.

**Ул. БАРАВІКОЎ.**

Пінск.

## Падзеі Факты Навіны

□ Драматычнаму калектыву Багушэўскага Дома культуры адначаму з першых у рэспубліцы было прысвоена званне Народнага тэатра.

Нядаўна грамадскасць гарадскога пасёлка Багушэўск адзначыла пятнаццацігоддзе з дня стварэння гэтага калектыву. У Доме культуры адбыўся ўрачысты вечар. Рэжысёр Народнага тэатра Р. Сарочкіна расказала пра яго творчы шлях. Самадзейным артыстам былі ўручаны граматы раённага аддзела культуры, грашовыя прэміі і каштоўныя падарункі. Народны тэатр паказаў урыўкі з пастаўленых спектакляў — «Не ўсё кату масленіца» А. Астроўскага, «Чалавек вярнуўся» П. Васілеўскага і «Дзівосы на калёсах» П. Данілава.

**Л. ГРЫШАНАЎ.**

□ Члены літаратурнага аб'яднання пры рэдакцыі рэчыцкай раённай газеты «Зара камуны» практыкуюць у сваёй рабоце выезды да калгаснікаў і рабочых. Нядаўна яны разам з удзельнікамі мастацкай самадзейнасці горада Рэчыцы выступалі ў падшэфным калгасе «Запаветы Леніна» і ў клубе фанерна-мэблевага камбіната. Свае вершы прачыталі Б. Луннькоў, Л. Балачкова, Р. Шамалаў і інш. Песні самадзейнага кампазітара Л. Фрэнкеля-Майзліка на словы мясцовых паэтаў выканалі С. Несцярэнка, М. Півонава, В. Сахараў і інш.

У бліжэйшы час літаб'яднанне арганізуе музычна-літаратурныя вечары ў вёсцы Белае Балота.

**П. КРУК.**

□ У вёсцы Жыцькава Барысаўскага раёна заканчваюць будаваць Палац культуры калгаса «Маяк камунізма». У прыгожым двухпавярховым будынку — глядзельная зала на 450 месц, прасторнае фае, пакоі для бібліятэкі, чытальнай залы, гурткоў самадзейнасці. Побач з Палацам культуры будзе парк і спартыўны стадыён.

**А. БЕНЯНСОН.**

□ У Віцебску з'явіўся цыгарападобны домік на колах. Гэта новы перасоўны кінатэатр «Планер», прызначаны для абслугоўвання дзяцей дашкольнага ўзросту. Яго абсталявалі работнікі віцебскай кінарамонтнай майстэрні.

Цяпер у горадзе працуюць два перасоўныя кінатэатры, якія абслугоўваюць дзятву.

□ У Брэсцкай вобласці пачала дзейнічаць перасоўка шырокаэкраннага кіно. Яна зманціравана на дзвюх аўтамашынах. Шырокаэкранныя кінафільмы паглядзелі ўжо хлебаробы калгаса імя Суворава Пінскага раёна і іншых арцелей.

□ У Брэсце адкрылася абласная выстаўка работ самадзейных мастакоў і майстроў народнай творчасці, прысвечаная XXII з'езду КПСС і XXV з'езду КП Беларусі.

Многія жывапісцы і разбяры па дрэву, скульптары прысвяцілі свае творы вялікаму правадыру працоўных, заснавальніку Камуністычнай партыі і Савецкай дзяржавы Уладзіміру Ільічу Леніну. З глыбокім хваляваннем аглядаюць наведвальнікі мастацкае пано «Ленін з маці», вышытае гладдзю брэсцкай настаўніцай К. Цярцічнай. Рабочы пасёлка мэблевай фабрыкі Д. Сакажынскі з вялікім майстэрствам выканаў партрэт і барэльеф Леніна.

На выстаўцы шырока прадстаўлены карціны, эцюды, партрэты, прысвечаныя гераічным будням рабочых і калгаснікаў, пейзажы роднай беларускай прыроды.

# БЕЛАРУСКІЯ СУВЕНІРЫ

Брыгадзір брыгады камуністычнай працы фарфоравага завода Ала Бучко.

Малады хлопец-дудар... Прыгожыя дзяўчаты ў задуменні слухаюць яго чароўную песню...

Гэтыя фарфоравыя статуэткі створаны рукамі беларускіх дзяўчат, якія працуюць на Мінскім фарфоравым заводзе. Калектыў завода рыхтуе дастойную сустрэчу XXII з'езду роднай партыі. Сярод іншай прадукцыі, якую выпускае завод, значную долю складаюць мастацкія вырабы, асабліва беларускія сувеніры.

Многа часу і стараннай працы патрабуюць яны. Пакуль кожная статуэтка набудзе прывычны для нас выгляд, яна праходзіць праз восем розных складаных аперацый.

Побач з вядомымі ўжо шырокаму пакупніку сувенірамі — статуэткамі «Прыпеўкі», «Гусляр», «Дзяўчынка з вянком» — асвоены новыя віды мастацкіх рэчаў. Гэта «Трыпціх», статуэтка «Зубр» у новым варыянце, «Поры года» і інш.

Усе рэчы зроблены па ўзорах беларускіх мастакоў і скульптараў.

На заводзе працуюць брыгады камуністычнай працы — мастацкага ліцця і жывапісцаў. Брыгада ліцця мастацкіх вырабаў штодзённа выконвае план на 110 працэнтаў. Усе члены брыгады вучацца на завочных аддзяленнях інстытутаў, тэхнікумаў, вячэрніх школ, прымаюць актыўны ўдзел у грамадскай рабоце. Узначальвае брыгаду член КПСС, сакратар камсамольскай арганізацыі завода Ала Бучко. Яна займаецца завочна на трэцім курсе індустрыяльнага тэхнікума будматэрыялаў.

— Наша брыгада, — гаворыць яна, — абавязалася да адкрыцця XXII з'езда партыі выканаць план дзевяці месяцаў датэрмінова.

Нядаўна ўсяму фармовачнаму аддзяленню, у склад якога ўваходзіць брыгада Алы Бучко, прысвоена званне аддзялення камуністычнай працы. За гэтае ж ганаровае званне змагаецца і жывапісна-сарціровачнае аддзяленне завода.

З кожным днём прадукцыя Мінскага фарфоравага завода набывае ўсё большую папулярнасць у рэспубліцы і далёка за яе межамі.

Масква. У Палацы спорту Цэнтральнага стадыёна імя Ул. І. Леніна пачаліся гастролі вядомай французскай спявачкі Калет Рэнар і эстраднага аркестра пад кіраўніцтвам Рэмона Леграна. У праграму выступленняў артысткі ўваходзяць песні і мелодыі старой Францыі і сучаснага Парыжа.

НА ЗДЫМКУ: спявае Калет РЭНАР.

Фота Е. КАСІНА. (ТАСС).

# ХЛЕБ І КВЕТКІ

(Заканчэнне. Пачатак на 3-й стар.)

— Вы не пазнаяце мяне?—спытаў ён. Хваляванне сціснула яму горла.

— Не.

— Я быў тут зімой.

— Гэта вы? — яна нечакана ажывілася.—Я не пазнала вас. У вас ёсць якія-небудзь весткі?—яна ішла хутка праз сенцы, накіроўваючыся да дзвярэй кватэры.—Скажыце, у вас ёсць якія-небудзь весткі?

— Весткі ёсць.

«Як добра, што яна мяне не бачыць»,—прамільгнула думка.

— Аб Кацярыне?

Ён зноў апынуўся ў невялікім памяшканні з акенцам на панадворак. Пад спякотным сонцам там гойсалі дзеці.

— Пра Кацярыну,—паўтарыў ён,—таксама.

— Дзе яна?—не цярпелася маці.

— У Варшаве.

Жанчына пабялела. Яе вочы здаваліся яму цяпер цямнейшыя.

— У Варшаве ж немцы,—сказала маці Кацярыны.

— Не, адна частка Варшавы ўжо свабодная, другая...

— Але Кацярына знаходзіцца ў гэтай другой?

— Так.

— І адтуль няма ніякіх вестак?

— Чаму ж...—ён нечакана змоўк.—Не, няма сувязі з тым берагам. Прынамсі, пакуль што.

— Гэта значыць, што вы нічога не ведаеце пра маю дачку?

— Неўзабаве даведаюся.

— Так,—жанчына пацерла далонню скронь.—Так, трэба яшчэ чакаць. Увесь час чакаць.

— Хутка вызваляць Варшаву.

Запанавала маўчанне. Яго перапыніла жанчына:

— Вы, здаецца, родам з Люблінскага?

— Так.

— Вы былі там?

— Я якраз прыехаў з Любліна. Таварышы даручылі мне наведаць вас.

— Навошта?

— Хочуць ведаць, як выглядаеце, ці не адчуваеце ў чым-небудзь нястачы.

Яна прыглядалася да яго колькі хвілін і толькі цяпер прыкмеціла на яго твары сляды стомленасці.

— Даўно вы знаёмы з Кацярынай?

— Даўно.

— Яна ніколі пра вас не расказвала.

— Вы мне сказалі, калі я тут быў зімой, што апошні раз вы бачылі Кацярыну ў саракавым годзе ў Беластоку.

— Так.

— Я пазнаёміўся з ёю пазней.

— Пасля Беластоку?

— Пасля пачатку вайны.

— Што вы можаце мне яшчэ расказаць пра маю дачку?

Яго сэрца замерла. Ён адчуваў, што больш не вытрымае, што не можа больш хлусіць. Салдат маўчаў.

— Што вы можаце мне яшчэ расказаць пра маю дачку?—паўтарыла яна.

— Пакуль што нічога. Калі толькі яна з'явіцца, я перадам ёй ваш адрас.

— Чаму—вы?

Яна не спускала з яго вачэй. Ён сядзеў нерухома, з цяжкасцю збіраючыся з думкамі.

— Чаму—вы?

— Гэта мой службовы абавязак. Калі толькі з'явіцца...

— Але чаму—вы?

— Я вельмі добра ведаў Кацярыну.

— Яе ведае мноства людзей, але ніхто не прыязджаў сюды, толькі вы.

— Выпадковасць.

— Ах, вось яно што,—і шэптам паўтарыла: — Выпадак...

Яе твар раптам змарнеў. Яна спляла далоні і глядзела на госця з сумам.

— Скажыце ёй, што я тут і чакаю,—аднавіла яна размову.

— Вы маглі б паехаць да яе.

— Але калі? Адкуль я даведаюся?

— Так,—адказаў з роздумам салдат,—лепш за ўсё будзе, калі яна прыедзе да вас.

Ён уздыхнуў з палёгкай. Ужо ведаў, што не будзе больш ніякіх нечаканасцей, небяспечных пытанняў. Гутарка спынілася. Мужчына адкрыў мяшок і няўпэўнена выцягнуў адтуль буханку.

— Я прывёз гэта,—сказаў ён шэптам.

— Каму?

— Прывёз гэта для вас.

— Навошта?

— Відаць, у вас не надта многа хлеба.

— Маем столькі, колькі нам трэба.

— Бачыў,—адказаў ён, спрабуючы ўсміхнуцца.

— Што бачылі?

— Тады, зімой,—жэстам ён указаў на шафку,—бачыў, колькі вы мелі гэтага хлеба.

— Тады немцы былі яшчэ на нашай зямлі.

— Ведаю, вазьміце гэта, калі ласка.

— Не трэба.

— Калі ласка, бярыце, ведаю, што прыдасца.

— Не будзем пра гэта гаварыць, забярыце яго назад.

Салдат замоўк. Пасля сказаў:

— Вазьміце гэта для дзяцей.

— Не трэба. Ім усяго хапае.

Ён вінавата ўсміхнуўся.

— Давядзецца везці назад.

— Аддайце каму-небудзь або з'ешце самі.

— Прабачце тады.

— Няхай вам будзе на здароўечка,—яна ўстала.—Я павінна ўжо вяртацца да дзяцей.

Салдат адсунуў крэсла, абцягнуў гімнасцёрку.

— Бывайце здаровы.

Ужо ў дзвярах пачуў яе словы.

— Я веру, што калі толькі Кацярына з'явіцца, вы паведаміце мне.

— Абяцаю.

Хвіліну яна маўчала і раптам перайшла на ты.

— Прыедзеш з ёю сюды?

Салдат уздрыгнуў.

— Я?

«Яна ведае пра ўсё,—падумаў спалохана.—Яна ведае пра ўсё».

— Так, — сказаў ён. Раптам яму здалося, што ён сказаў занадта ціха і таму не развеяў яе сумненні. Сказаў галасней:—Так, безумоўна.

Жанчына лёгка ўсміхнулася.

— Буду чакаць.

III

Салдат пакінуў дзіцячы дом. Ён ведаў, што ўжо ніколі не вернецца сюды ні з Кацярынай, ні без яе. «І навошта я сюды ехаў? —задаваў ён сам сабе пытанні.— Што мяне сюды прывяло? Можа, гэтай жанчыне трэба было сказаць праўду?» Кацярына ніколі сюды не вернецца. Яна засталася там, у нейкай безназоўнай яме, выкапанай на Павіяку, побач са спаленым гета. Гэта ён здолеў устанавіць. Колькі разоў ён чуў, колькі разоў яго пераконвалі, столькі разоў ён пераконваў іншых, што самая горшая праўда лепшая за самую прыгожую хлусню. Чаму ж ён цяпер зрабіў інакш? Ці не таму, што праўда, якая датычыцца пачуццяў, кіруецца іншымі, адметнымі законамі, выключнымі і надзвычайнымі? Але якая ж праўда не датычыцца пачуццяў? А можа, яму не хапіла адвагі, каб сказаць праўду жанчыне, дачку якой ён так кахаў?

Значыць, так. Кожнай іншай маці ён мог бы сказаць цвёрда, што не варта сябе ашукваць, толькі гэтай адной-адзінай жанчыне ён не можа гэтага сказаць. «Хто ад мяне патрабуе гэтай адвагі? Такой адвагі?—раздумваў.— А адвага? Хіба яна нараджаецца па заказе? Я сам не магу вырашыць, ці ўзброіцца ёю, ці адмовіцца ад яе?»

«Яна будзе чакаць,—раздумваў, крочачы.—Колькі часу? Возьмуць Варшаву—і ўсё раскрыецца, акажацца, што я хлусіў і на гэта ў мяне хапала адвагі. Хлусіў кацярынінай маці... Варшава здасца— і тады яна даведаецца, што яе дачкі ўжо няма ў жывых многа-многа месяцаў. Але не ад мяне даведаецца яна пра гэта, не ад мяне».

За паваротам ён зноў убачыў агароджаны домік, які патанаў сярод кустоў і кветак. У цені, у прыадчыненым акне паказалася нейкая постаць.

Ён накіраваўся да агароджанага будынка з цвёрдым рашэннем. Яшчэ раз намацаў хлеб, быццам жадаючы ўпэўніцца, што буханка, ад якой адмовілася кацярыніна маці, спачывае на дне мяшка.

У доміку, напоўненым цішынёй і халадком, знаходзіліся двое старых. Калі ён спыніўся ля веснічак, яны выйшлі насустрач.

— Прабачце, — сказаў салдат. —Я не хацеў вас трывожыць.

— Нічога, нічога. Вы нетутэйшы?—спытала старая.

— Не. Я з Польшчы. Наведваў дзіцячы дом.

— У вас там дзіця?—спагадліва спытала старая.

— Не. Я наведваў там адну жанчыну.

У адказ маўчанне.

— Я ўбачыў кветкі,—сказаў салдат,—і падумаў, што мог бы гэтай жанчыне зрабіць прыемнасць.

— Вось яно што. Калі ласка, выбірайце.

— Прыгожыя ў вас кветкі.

— Можам вам даць крыху.

— Я хачу купіць.

— Мы з гэтага жывём. Калі вы хочаце іх забраць?

— Я?

— Калі вы хочаце занесці іх гэтай жанчыне?

— Не! Я не хачу несці ёй кветкі,—салдат раптам спалохаўся думкі, што прыйшлося б яшчэ раз вярнуцца туды і зноў глядзець на твар кацярынінай маці.

— Я занясу,—сказаў агароднік.—Каму іх перадаць?

— Ведаеце гэтую польку, загадчыцу?

— Ведаем,—адказала жанчына.—Гэта ёй?

— Так. Я заплачу.

Салдат павольна развязаў мяшок. Выняў буханку.

— Ці будзе яна ведаць, ад каго гэтыя кветкі?

Салдат паклаў хлеб на стол. Невідучымі вачыма ён глянуў на жанчыну.

— Яна будзе ведаць? Ці будзе яна ведаць?

— Што ёй сказаць?—перапыніў роздум жаночы голас.

— Ад каго?—удакладніў агароднік.

— Скажыце, што ад чалавека, які сёння быў у яе.

— Яна будзе ведаць?

— Напэўна. У яе нікога няма.

— Як гэта нікога няма? У яе ж ёсць дачка,—сказаў стары.

— Яе дачка ўжо не жыве.

— Не!—спалохана ўсклікнула жанчына.

— Не гаварыце ёй пра гэта,— вымавіў салдат.—Яна яшчэ не ведае.

Стары дакрануўся да хлеба.

— Вы занадта многа даяце, таварыш. За буханку хлеба вы маглі б купіць усе нашы кветкі.

— Мне яны непатрэбны.

Агароднік не зразумеў салдата, бо адказаў:

— Трэба было гэты хлеб пакінуць у дзіцячым доме.

— Яна адмовілася яго ўзяць.

— Адмовілася? Чаму?

— Сказала, што ім хапае хлеба.

— Гэта няпраўда,—умяшалася жонка агародніка,—у нас мала хлеба.

— Бачыце,—дадаў муж,—вайна яшчэ ідзе. А мы не поўнасцю абсяваемся.

Салдат бездапаможна развёў рукамі.

— Не хацела браць, вазьміце вы. Апрача таго, вам належыць за кветкі.

— Якія вы выбераце?

— Выбірайце самі, я ў такіх справах не разбіраюся.

— Добра,—адказаў агароднік, накіроўваючыся да кустоў.—Яшчэ сёння занясу.

— Дзякую вам.

— Бывайце здаровы.

IV

У пачатку верасня загадчыца з'явілася ў садзіку. Сустрэўшы агародніка і яго жонку, яна сказала:

— Я хацела б купіць крыху кветак.

— Калі ласка, Марыя Андрэеўна, выбірайце, колькі хочаце.

— Я хацела б купіць.

— Калі ласка,—адказала ласкава старая.—Выбірайце сабе.

— Я не хачу дарма.

— Ад вас жа мы не возьмем платы,—сказаў агароднік.

— Мусіце. Мне пастаянна будуць патрэбны кветкі.

— Увесь час? Для каго ж гэта?

— Хачу мець такі запас, ведаеце. Пакуль што не буду іх браць.

— Не разумею.

— Я хацела б мець кветкі на выпадак, калі вернецца Кацярына.

Старыя пераглянуліся і замоўклі. Загадчыца ж гаварыла далей:

— Мне хацелася б мець кветкі тады, калі тут з'явіцца мая дачка. Заплачу наперад, добра?

— Будзеце мець,—адказаў агароднік, не адрываючы позірку ад твару сваёй жонкі.—Вы можаце ўзяць іх кожную хвіліну.

— Не ведаю, калі гэта будзе, вось таму і хачу заплаціць.

— Навошта?

— Я ж тлумачу вам. Заплачу, а вы захаваеце для мяне крыху кветак.

— Так я не магу,—адказаў стары.

— Чаму ж, мае даражэнькія? Я заплачу—і кветкі будуць належаць мне. Толькі вы іх не будзеце зразаць.

— А калі...—умяшалася жонка агародніка.—А калі...

— Што калі?—рашуча перапыніла яе загадчыца.—Што калі?

— Паслухайце, Марыя Андрэеўна,—сказаў агароднік,—калі ваша дачка вернецца, вы дастанеце столькі кветак, колькі захочаце.

— Не, мае даражэнькія. Так нельга. А, можа, яна вернецца якраз тады, калі вы ўсе прадасце?

— Мы пакінем для вас.

— Прыміце, — загадчыца вынясла з кішэні акраец хлеба, загорнуты ў белую хусцінку. — Прыміце пакуль што гэтую крышку.

— Мы так не можам,—сказала жонка агародніка.

— Я толькі так буду ўпэўнена. Праз некалькі дзён зноў заплачу.

— Хопіць гэтага акрайца.

— Дарма не хачу.

— У вас жа саміх мала хлеба.

— А ў вас многа? Вы ж з гэтых кветак жывяце. Як жа я магу браць іх дарма?

— Я кажу вам,—адмаўляўся агароднік,—што гэтага акрайца хопіць.

— Няўжо вы хочаце, каб я абавязкова за кожным разам брала кветкі? Гэта ж бессэнсоўна, пакуль тут няма маёй Кацярыны.

— Можа, было б лепш, каб вы бралі кветкі,—умяшалася старая.

— Навошта яны мне цяпер?— сумна адказала загадчыца.—Зразумейце гэта...

V

Садзік абміраў. Кветкі бляднелі, выцвіталі іх колеры, хоць апоўдні ўсё яшчэ было спякотна. Але былі яшчэ асеннія кветкі, глянсаватыя, цвёрдыя, вострыя, малаўражлівыя, пазбаўленыя гнуткасці і красы.

— Зрэжу іх, сёння ж зрэжу, — сказаў аднойчы агароднік сваёй жонцы, калі адышла загадчыца, зноў пакінуўшы акраец хлеба. — Зрэжу—і будзе спакойна. Я ўжо не магу, я гэтага не перанясу.

— Ты не зрэжаш гэтыя кветкі, — прашаптала яго жонка, быццам баючыся, што жанчына, якая ішла цяпер па шашы, яшчэ магла пачуць яе словы.—Ты не зробіш гэтага. Што ты ёй скажаш? Што ўжо няма каго чакаць?

— Скажу ёй... Скажу, што Кацярына ўжо ніколі не вернецца. Яна ж галадае, а мы бяром у яе хлеб за кветкі, якіх яна ніколі не возьме.

Запанавала маўчанне, затым агароднік сказаў:

— Не, я ёй не скажу. І ты таксама. Лепш няхай не даядае, чым ведае жорсткую праўду.

— Будзем і надалей так рабіць, —пагадзілася жонка агародніка. — Гэта не надоўга—кветак у нас усё менш... Ужо восень.

Галоўны рэдактар Нічыпар ПАШКЕВІЧ.
Рэдакцыйная калегія: Заір АЗГУР, Аляксандр БУТАКОЎ, Кастусь ГУБАРЭВІЧ, Васіль ІВАШЫН, Аркадзь МАРЦІНОВІЧ (адказны сакратар), Пятро ПРЫХОДЗЬКА, Раман САБАЛЕНКА (намеснік галоўнага рэдактара), Мікола ТКАЧОЎ, Янка ШАРАХОЎСКІ, Іван ШАЦІЛА, Рыгор ШЫРМА.

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР, Минск.

АДРАС РЭДАКЦЫІ: г. Мінск, вул. Захарава, 19. Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі—3-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 3-25-25, адказнага сакратара—3-25-25, аддзела літаратуры—3-22-04, аддзела мастацтва—3-24-62, аддзела культуры—3-20-54, выдавецтва—3-19-52, бухгалтэрыі—3-11-03.

«Літаратура і мастацтва» выходзіць два разы на тыдзень: у аўторак і пятніцу.

АТ 00369.

Друкарня імя Сталіна